наша
# свабода
№58 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

15 ВЕРАСНЯ 2000 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

стр.7


Бросить пить

# Доўгі шлях да 100 баксаў

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**Зрабіць у 2001 годзе сярэдні заробак беларусаў роўным 100 доларам — такую задачу паставіў А.Лукашэнка дзяржаўным органам улады падчас нарады, прысвечанай абмеркаванню прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны ў 2001 годзе. На ім былі разгледжаныя асноўныя сацыяльна-эканамічныя параметры на наступны год і праект дзяржаўнага бюджэту.**


У чаканні прыстойнага заробку...

А.Лукашэнка шчыра прызнаўся, што ўсе планы на 2001 год будуць будавацца з разлікам на выбары «прадстаўнікоў» і прэзідэнта. «Мы павінны ўтрымаць уладу сумленным шляхам», — зазначыў ён. Пераводзячы на чалавечую мову: у Беларусі будзе рабіцца усё, каб толькі звычайны выбаршчык адчуў любоў да цяперашніх кіраўнікоў і прагаласаваў за тое, каб гэтыя самыя кіраўнікі працягвалі быць пры ўладзе яшчэ 5 гадоў.

Менавіта таму было вырашана павысіць заробкі з 1 кастрычніка. Бо калі падняць іх раней (або пазней), электарат не заўважыць, не ацэніць і не падтрымае. Беларускі кіраўнік прыгожа казаў пра тое, што за кошт эфектыўнага развіцця вытворчасці трэба падвысіць заробкі рабочым, сялянам, настаўнікам і медыкам. Цікава, што перашкаджала яму эфектыўна развіваць вытворчасць раней, напрыклад, за паўгода да выбараў?

Ідуць выбары – і абяцаць трэба што заўгодна, па максімуме. Каб абралі. Ведаючы, што калі потым выканаеш абяцанні па мінімуме, то ўсё роўна ніхто не адцягне за вушы ад улады яшчэ пяць гадоў. І можна абяцаць падняць з кастрычніка заробкі на 25%, дапускаць, што да канца года, можа, атрымаецца яшчэ «накінуць». І планаваць на 2001 год падвышэнне заробкаў яшчэ на 20%.

Але як пры гэтым сапраўды «дагнаць» сярэдні заробак з цяперашніх 60 да 100 долараў, А.Лукашэнка не патлумачыў. Сапраўды, калі, па апошніх дадзеных, сярэдні заробак складае 62.755 рублёў (61,5 долара), і паступова адбудуцца два ягоныя падвышэнні – на 25% і 20%, то фінальная лічба складзе 94.132,5 рублі (92,28 долара). І гэта пры тым, калі курс долара не пойдзе ўгору. А гэта больш чым магчыма – кожнае падвышэнне заробку правакуе новую хвалю інфляцыі, якую не стрымаць ніякімі дэкрэтамі або прагнозамі сацыяльна-эканамічнага развіцця.

А.Лукашэнка запатрабаваў, каб рост цэнаў не перавышаў сёлета 3% у месяц, а ў 2001 годзе – 2,5%. Асабліва гэта датычыцца прадуктаў харчавання. Таксама прыгожы ход напярэдадні выбараў, які можа забяспечыць істотную падтрымку маламаёмасных грамадзянаў (а такіх у нас большасць). Можна запатрабаваць ад прадпрыемстваў не падвышаць цэны – але тады згубіцца і так невысокая якасць. І зноў пойдуць жарты пра туалетную паперу і валасы ў каўбасе. Але іншага шляху захаваць рублёвыя цэны пры росце курса долара, апроч як пагаршаць якасць, у вытворцаў не будзе.

Цікава, што як ужо два гады запар асноўныя прыярытэты развіцця эканомікі застаюцца тымі ж: рост экспарту, будаўніцтва жылля і павелічэнне вытворчасці прадуктаў харчавання. І гэта пры тым, што летась, напрыклад, усе тры накірункі былі праваленыя; спад паводле афіцыйнай статыстыкі склаў ад 9% да 26%. Не надта змянілася сітуацыя і сёлета.Таму бяруся прадказваць прама цяпер: чакаць таго моманту, калі «сярэднестатыстычны беларус» сапраўды пачне зарабляць па 100 долараў, давядзецца вельмі доўга. У добры шлях! ■

# Беларускі бензін – самы дарагі

**Кірэй МАНУЙЛА**

**Акцыі пратэсту супраць падвышэння коштаў на бензін, выкліканага павелічэннем памераў падаткаў і акцызаў на паліва, пакрысе ахінаюць усю Еўропу. Такім чынам французы, ангельцы, бельгійцы, палякі ды іншыя выяўляюць сваю незадаволенасць нават тады, калі кошты вырастаюць на некалькі цэнтаў. Можна толькі ўявіць, што рабілася б, будзь там нашыя кошты на бензін пры нашых заробках.**


Фота IREX/ProMedia

Першымі яшчэ на мінулым тыдні запратэставалі французскія кіроўцы грузавікоў. Падтрыманыя фермерамі і рыбакамі, яны ў выніку дамагліся ад ураду пэўнай «адкруткі» паліўных коштаў назад.

Далей усё перакінулася на Бельгію і асабліва на Вялікабрытанію, дзе пры досыць буйных аб'ёмах здабычы нафты кошты на бензін самыя высокія ў Еўропе. Брытанскія грузаперавозчыкі ўжо некалькі дзён блакуюць нафтасховішчы. У выніку перапынілі працу тры чвэрці аўтазаправак, а паліва дастаўляецца зборшчыкам толькі на патрэбы медычных установаў, пажарных частак і паліцыі.

Брытанцы, апасаючыся, што бензінавы крызіс можа спарадзіць недахоп прадуктаў харчавання, ажыятажна раскупляюць хлеб, малако, цукар і макароны. У сераду да другой паловы дня ў многіх крамах давялося нават увесці рацыянаванне харчу. Напрыклад, у большасці супермаркетаў норма – 12 найменняў тавару ў адныя рукі. Пры гэтым максімум хлеба, які можна ўзяць, складае тры боханы на чалавека, а малака – дзве бутэлькі. Аднак пакупнікі стараюцца па-ранейшаму купляць усяго як мага болей.

У Лондане зачыненыя аддзелы супермаркетаў, што гандлююць свежай гароднінай. Нягледзячы на гэта, большасць брытанцаў – каля 80% – працягваюць падтрымліваць патрабаванні пікетчыкаў па зніжэнні коштаў на бензін. Урад Тоні Блэра пакуль што не саступае. Больш за тое – англійская армія прыведзеная ў поўную «гатоўнасць для ўмяшальніцтва ў крызісную сітуацыю»: вайсковыя часткі могуць быць выкарыстаныя для адцяснення пікетаў і суправаджэння бензавозаў па маршрутах.

Сёння падобныя сабатажныя акцыі маюць быць праведзеныя ў Нямеччыне, Ірландыі і Польшчы. У прыватнасці, польскія кіроўцы грузавікоў плануюць акцыю «Смоўж», прычым абсалютна законную: на працягу 6 гадзінаў яны будуць ехаць па аўтамагістралях з як мага нізкай хуткасцю, запавольваючы такім чынам агульны транспартны рух.

Дарэчы, зараз палякі плацяць за літр бензіна 0,8 USD, пры тым што маюць 400 долараў сярэдняй зарплаты на месяц; амерыканцы, у якіх мінімальны заробак складае 7 USD на гадзіну, аддаюць 0,41 USD за літр; у Італіі літр бензіну каштуе 1,1 USD, а зарабляюць італьянцы дзесьці каля 800 USD; у Германіі гэта – адпаведна 1 USD і прыкладна 1.500 USD на месяц; французам літр паліва таксама абыходзіцца ў трохі болей 1 USD, а зарабляюць яны па 1.300–1.400 USD.

Для параўнання: у нас бензін каштуе ад 0,4 да 0,5 USD. Быццам бы нядорага, але пры сярэднім зарплаце беларуса ў 60 USD атрымліваецца, што ў нас літр бензіну для пакупніка каштуе ў 10 разоў болей, чым у Германіі, ці ў 5 разоў болей, чым у Польшчы. Тым не менш, беларусы пакуль што маўчаць, таму беларускаму ураду застаецца толькі цешыцца і маліцца на такі народ. ■

## НАВІНЫ

■ **З учарашняга дня ў Беларусі ўсталяваны адзіны афіцыйны валютны курс –1.020 рублёў за долар.** Цяпер на Беларускай валютна-фондавай біржы будзе праводзіцца адзіная гандлёвая сесія па замежнай валюце. Цікава, наколькі хопіць грашовых рэсурсаў Нацбанка, каб утрымаць афіцыйны курс на ўзроўні вольнага? Бо нават учора ён быў, хай і трохі, вышэй за нацбанкаўскі.

■ **На тэрыторыі Навагрудскага і Карэліцкага раёнаў створаны біялагічны заказнік «Графская пушча».** Пад ахову ўзята каля 10.000 гектараў лесу. Тут знаходзяцца 9 рэдкіх раслінаў і 11 відаў жывёлаў, занесеных у Чырвоную кнігу. У «Графскай пушчы», якая мяжуе з паляўнічым заказнікам «Налібоцкая пушча» і гідралагічным «Міранка», будуць забароненыя любыя работы, што могуць прывесці да змянення ландшафта, прамысловая нарыхтоўка тэхнічнай і лекавай сыравіны, турыстычныя пікнікі.

■ **Нігерыя заняла першае месца ў спісе самых карумпаваных дзяржаваў свету.** Такі спіс штогод даецца ў спецыяльным дакладзе берлінскага цэнтра *Transparency International.* У мінулым годзе «першынстваваў» Камерун. Сёлета ў гэтым рэйтынгу, які складаецца на аснове апытанняў бізнесменаў, аналітыкаў і грамадскасці, на другім месцы знаходзіцца Югаславія, далей ідуць Украіна, Азербайджан, Інданезія, Ангола, Камерун, Расія. Усяго 90 дзяржаваў. Самай некарумпаванай краінай названая Фінляндыя.

■ **У Крыме разгарэўся скандал, звязаны з конкурсам на складанне гімна для гэтай аўтаномнай рэспублікі.** Планавалася, што новы гімн будзе выкананы 20 кастрычніка на ўрачыстасцях з нагоды другой гадавіны Канстытуцыі Крыма. Але ў сераду прэм'ер-міністр Крыма Сяргей Куніцын выступіў як супраць прапанаванага каштарысу конкурсу, гэтак і супраць рашэння па прысуджэнні першага месца. Ён падлічыў, што ўсё гэта абыдзецца крымчукам задорага: кожнае слова гімна па ўмовах бюджэтнага дэфіцыту будзе каштаваць 700 долараў. Разам з тым крымскі прэм'ер назваў «неэтычным» рашэнне камісіі абвясціць пераможцам конкурсу, у якім бралі ўдзел больш за 60 паэтаў, жонку міністра культуры паўвыспы, тым больш што ейны тэкст «не ўяўляе аніякай паэтычнай і мастацкай каштоўнасці».

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА






Курс наяўнага долара на «чорным рынку»
**1025**

## Масква яшчэ пашкадуе?

Ягор ЗВОННІКАЎ

Валютны саюз з Беларуссю будзе дорага каштаваць Маскве. Да такой высновы ў адным са сваіх апошніх нумароў прыходзіць уплывовая нямецкая газета *Handelsblatt*.

З 2005 года расійскі рубель стане беларускай валютай, з 2008 года – адзінай валютай расійска-беларускага саюза, нагадвае газета. Аднак папярэдне Беларусь павінна ажыццявіць неабходныя эканамічныя рэформы. Паводле інфармацыі *Handelsblatt*, на першым этапе расійскі Цэнтральны банк прадаставіць Беларусі крэдыты ў памеры 200 мільёнаў долараў ЗША і 4,5 мільярда расійскіх рублёў на ажыццяўленне неабходных пераўтварэнняў у грашова-крэдытнай сферы. Прычым на вяртанне гэтых крэдытаў Масква не разлічвае. Некаторым суцяшэннем для яе можа быць толькі тая абставіна, што рынак збыту расійскіх прадпрыемстваў узрасце на 10 мільёнаў чалавек, якія жывуць у Беларусі.

Беларусаў, як піша *Handelsblatt*, вельмі раздражняе мытны кантроль з расійскага боку. Паводле сцвярджэнняў Масквы, яна вядзе мытны дагляд увозімых з Беларусі тавараў, таму што толькі прадукцыя беларускай вытворчасці можа бяспошлінна ўвозіцца на тэрыторыю Расіі. З гэтай нагоды аб'ём паставак з Беларусі ў першай палове 2000 года скараціўся з 50 да 17 мільёнаў долараў ЗША. Аднак Расія ўсё яшчэ застаецца буйнейшым спажыўцом беларускіх тавараў (66,7 працэнта беларускага экспарту ідзе ў Расію). ■

## Зачакаліся ў Швейцарыі

Алег САКАЛОЎ

Следчы суддзя Швейцарыі Даніэль Дэво звярнуўся да генеральнага пракурора РФ з міжнародным следчым даручэннем, у якім змяшчаецца просьба прадаставіць карысную інфармацыю аб некаторых высокапастаўленых расійскіх чыноўніках, якія падазраюцца ў адмыванні грошай і ўдзеле ў злачыннай арганізацыі, паведамляюць расійскія сродкі масавай інфармацыі. Сярод асобаў, узгаданых у гэтым звароце, – былы кіраўнік справамі першага расійскага прэзідэнта, а цяпер дзяржсакратар Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі Павел Барадзін, члены яго сям'і і кіраўнік кампаніі «Мерката Трэйдынг» Віктар Сталпоўскіх (*гэтая фірма разам з «Мабетэксам» атрымала кантракт ад упраўлення справамі прэзідэнта на рэканструкцыю шэрагу будынкаў у Крамлі. – БелаПАН*).

У дакуменце, апублікаваным нядаўна ў газеце «Сегодня», размова ідзе пра скандальную справу швейцарскай фірмы «Мабетэкс». Да звароту швейцарскага суддзі прыкладаюцца копіі дамоваў і банкаўскіх дакументаў, згодна з якімі расійскія чыноўнікі атрымалі ад гэтай фірмы буйныя грашовыя сумы за тое, што дапамаглі атрымаць ёй выгадныя падрады на рэканструкцыю Крамля і шэрагу іншых дзяржаўных аб'ектаў у Расіі.

У дакуменце, у прыватнасці, сцвярджаецца, што «з 62,52 мільёна долараў ЗША, пералічаных за кантракты № 136 і № 137, заключаныя паміж кампаніяй «Мерката Трэйдынг» і Упраўленнем справамі прэзідэнта Расійскай Федэрацыі, сям'я спадара Паўла Барадзіна атрымала 25 609 978 долараў ЗША». ■

БелаПАН

## «Маўр» зрабіў сваю легітымізацыйную справу

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ, Алесь ПАЎЛОВІЧ

**Валерыя Шчукіна не зарэгістравалі кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Асноўнай прычынай адмовы, па словах В.Шчукіна, стала тое, што ён у пададзеных на рэгістрацыю дакументах назваў сябе дэпутатам Вярхоўнага савета. Іншай прычынай сталі некалькі няправільна афармленых подпісаў.**

Цалкам лагічны канец гісторыі В.Шчукіна. Іншага нельга было чакаць. Валеры Шчукін выканаў затоенае жаданне ўлады — у ступені сваіх магчымасцяў легітымізаваў выбарчую кампанію. Не мае значэння, аспрэчыць ён ці не аспрэчыць рашэнне акруговай камісіі, якая яго не зарэгістравала. Сам факт здачы дакументаў на рэгістрацыю ёсць прызнанне патрабаванняў рэжыму. Наўрад ці хто паспачувае, што былога сябра дэмакратычнай кааліцыі, які раптам кінуўся за дэпутацкім мандатам, пазбавілі ружовай мары. Нельга здраджваць ідэалам, да якіх некалькі гадоў гучна заклікаў мноства людзей. Усіх іншых, хто паверыў — ці робіць выгляд, што паверыў, — у светлыя намеры рэжыму Лукашэнкі дапусціць у палату ўсіх жадаючых, падобнае расчараванне яшчэ чакае.

**P.S.** У мінулую сераду шэраг незарэгістраваных акруговымі камісіямі кандыдатаў папоўніла і жонка экс-прэм'ера Міхаіла Чыгіра Юлія. Правяраючыя са Слуцкай акругі, па якой спрабавала балатавацца Ю.Чыгір, быццам бы знайшлі некалькі дзесяткаў няправільна афармленых подпісаў выбаршчыкаў і на гэтай падставе адмовілі жонцы экс-прэм'ера ў рэгістрацыі. Калі рыхтаваўся гэты нумар, яшчэ не было вядома пра тое, ці сталі кандыдатамі іншыя вядомыя асобы з дэмакратычнага асяроддзя, якія вырашылі папытаць кандыдацкага шчасця на выбарах.

Між тым з крыніцаў, набліжаных да вышэйшай улады, дайшлі звесткі, што ёсць загад «адлучыць» ад удзелу ў выбарах Міхаіла Чыгіра, Мікалая Статкевіча, Ніну Стужынскую, Алега Волчака ды некаторых іншых. ■



## «Рабочы» арыштаваны

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

У сераду раніцай у прыватнай друкарні «Мэджык» быў арыштаваны наклад спецвыпуска газеты «Рабочы», які быў прысвечаны тэме байкоту выбараў. Разам з ім пад «гарачую руку» міліцыянтаў трапіў і наклад звычайнага нумара, што мусіў з'явіцца ў шапіках у чацвер. Падставай для арышту супрацоўнікі Першамайскага РУУСа назвалі тое, што ў матэрыялах газеты ўтрымліваліся заклікі да байкоту выбараў, што забаронена Кодэксам аб адміністратыўных правапарушэннях. Аднак аналагічнае дзейства дазволенае новым «Законам аб выбарах». Якім актам кіравацца – цалкам незразумела.

Міліцыянты ўпэўнена заявілі, што закон на іх баку, і павезлі галоўнага рэдактара газеты Віктара Івашкевіча ў Першамайскі раённы суд, дзе суддзя Сяргей Несінаў прыняў рашэнне адкласці разгляд справы да панядзелка, а наклад газеты да гэтага часу пакінуць у РУУСе. Разам з Віктарам Івашкевічам, які прыехаў вызваляць свой наклад, міліцыя таксама затрымала генеральнага дырэктара «Мэджыка» Юрыя Будзько і ягонага кіроўцу.

Сам Віктар Івашкевіч пракаментаваў здарэнне так: «Я не разумею, якія ў гэтай краіне законы правільныя і чаму адзін супярэчыць другому. Да таго ж, нават калі ўзяць Адміністрацыйны кодэкс, то там прадугледжана адказнасць за байкот выбараў грамадзянамі, а ніяк не галоўнымі рэдактарамі газет, на паласах якіх змяшчаецца меркаванне тых ці іншых груп і грамадзянаў. Тое, што надрукаванае ў газеце, мусіць разглядаць Дзяржаўны камітэт па друку і ніхто іншы!» ■

## Правакацыя для камуністаў

Рыгор БУЯН

**11 верасня Аляксандр Лукашэнка падпісаў дэкрэт №18 пра ўвядзенне членаў палітычных партыяў у склад Цэнтральнай выбарчай камісіі: па адным сябру ад кожнай з дзевяці партыяў, якія вылучылі кандыдатаў у дэпутаты. Аднак Партыя камуністаў Беларуская лічыць сябе пакрыўджанай.**

Зыходзячы з тэкста ўказа, партыйцы не будуць мець у складзе ЦВК ніякіх паўнамоцтваў. Яны надзеленыя правам дарадчага голасу: уносіць свае прапановы, знаёміцца з дакументамі і матэрыяламі ЦВК. Аднак уплываць на прыняцце канчатковых рашэнняў яны не здолеюць.

Што да камуністаў, то яны незадаволеныя рашэннем А.Лукашэнкі дэлегаваць у склад Цэнтрвыбаркама ад ПКБ Уладзіміра Бядулю. Яны называюць гэта правакацыяй з боку ўладаў, таму што партыя «нікому не давала паўнамоцтваў на ўваходжанне ў склад Цэнтрвыбаркама». Па Статуце ПКБ, інтарэсы партыі ў адносінах з дзяржаўнымі органамі прадстаўляе толькі першы сакратар ЦК ПКБ. Партыйную лінію могуць праводзіць і іншыя сябры партыі, але выключна па рашэнні вышэйшых партыйных органаў.

Кіраўніцтва ПКБ збіралася дэлегаваць у ЦВК сакратара ЦК Аляксандра Пахлонка, а трапіў туды Уладзімір Бядуля. Двойчы Герой Сацыялістычнай працы У.Бядуля сапраўды з'яўляецца актывістам ПКБ, але ні з'езд, ні ЦК, ні Бюро ЦК не надзялялі яго адпаведнымі паўнамоцтвамі.

Лідэр ПКБ Сяргей Калякін заявіў, што прэзідэнцкае атачэнне чарговы раз падставіла А.Лукашэнку і груба ўмяшалася ва ўнутраныя справы Партыі камуністаў, фактычна ўзяўшы на сябе функцыі яе кіраўніцтва. Больш за тое, у гэтых дзеяннях Бюро ЦК ПКБ угледзела «наймысны падлог» і запатрабавала пакарання вінаватых і прынясення афіцыйнага прабачэння.

Разам з дэманстрацыяй бязмежнага абурэння, ПКБ адназначна заявіла, што «цяпер у складзе ЦВК няма прадстаўніка ад ПКБ». «Той, хто будзе гаварыць адваротнае, будзе хлусіць», — сказаў С.Калякін НАШАЙ СВАБОДЗЕ.

Сяргей Калякін, якога 13 верасня Коласаўская акруговая камісія Мінска зарэгістравала кандыдатам у дэпутаты, здзіўляецца падзеямі мясцовых уладаў у некаторых акругах. «Вертыкаль апрацоўвае дырэктараў буйных прадпрыемстваў, якія знаходзяцца на тэрыторыі маёй акругі, каб сарваць выбары. Так што я магу павіншаваць правыя партыі, якія праводзяць байкот, што вертыкаль далучылася да іхняга байкоту», — заявіў лідэр ПКБ.



● Лідэр ПКБ Сяргей Калякін

У інтэрв'ю НАШАЙ СВАБОДЗЕ не змог Сяргей Калякін прамаўчаць і з нагоды выхаду ў эфір 11 верасня перадачы «Твой выбар», якая падавалася гледачу як прамы эфір. У ёй прадстаўнікі палітычных партыяў нібыта змагаліся паміж сабой, каб паказаць, хто з іх лепшы. Эфір з студыі перабіваўся ўстаўкамі з асобнага павільёна, дзе нібыта прымаліся прамыя тэлефанаванні гледачоў.

На самой справе перадача запісвалася 4 верасня. «Усё, што можна было, яны выразалі, — сцвярджае С.Калякін. – Падбор званкоў, якія нібыта прымаліся ў час прамога эфіру, быў надзвычай тэндэнцыйны; ніхто з членаў нашай партыі не мог дазваніцца, а хто і дазваніўся, тых не далі ў эфір. Я ўражаны цынізмам кіраўніцтва тэлерадыёкампаніі, якое відавочна лабіруе інтарэсы Камуністычнай партыі Беларусі, што ўзначальвае старшыня дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі», – заявіў першы сакратар ЦК ПКБ. У пацверджанне сваёй думкі ён прывёў вынікі «тэлефоннага рэйтынгу», паводле якога першае месца сярод партыяў заняла КПБ Віктара Чыкіна. Зрэшты, на думку С.Калякіна, з гэтай перадачай улады «селі ў лужыну». ■

## У Лідзе знішчылі малако і тварог

Сяргей МАКСІМОВІЧ

У Лідзе масава атруціліся гараджане, якія елі прадукты мясцовага малочна-кансервавага камбіната. 298 чалавек звярнуліся па медычную дапамогу, з якіх каля трэці трапілі ў шпіталь.

Прадпрыемства было спыненае, яго мыюць і чысцяць. Сярод працаўнікоў знойдзены тыя, хто меў дызентэрыйную палачку. Прадукцыя, зробленая на камбінаце, была знішчаная. Гэтаксама трапіла пад знішчэнне тая прадукцыя, што знаходзілася ў крамах.

Жыхары горада моцна напалохаліся. З пацярпелых амаль 80% — гэта дзеці. Атруціліся выхаванцы ледзьве не паловы дзіцячых садкоў і большасці школаў Ліды. Часова малочныя прадукты завозяцца ў горад з суседняга Навагрудка, а таксама з Гродна — за 109 кіламетраў. ■

## Эксперты з'язджаюцца

Рыгор БУЯН

Першыя два эксперты Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ ўжо знаходзяцца ў Мінску. Астатнія (усяго прыбудзе ў Мінск 6-8 чалавек) павінны з'явіцца ў Беларусі гэтымі днямі, а з панядзелка яны ўжо прыступяць да працы. Такую інфармацыю да ведама апазіцыі давёў кіраўнік КНГ АБСЕ Ханс-Георг Вік 13 верасня на паседжанні Кансультатыўнага савета апазіцыйных палітычных партыяў (КСАПП).

Пасол Х.-Г. Вік яшчэ раз падкрэсліў, што знаходжанне тэхнічнай місіі БДІПЧ АБСЕ на выбарах ні ў якім выпадку не азначае міжнароднага наглядання за выбарамі – эксперты не будуць рэгістравацца ў якасці наглядальнікаў; іхні прыезд не азначае аўтаматычнага прызнання палаты прадстаўнікоў №2. Місія мае намер вывучаць прававыя і адміністрацыйныя ўмовы для парламенцкіх выбараў, першы тур якіх мусіць прайсці 15 кастрычніка. Аднак ужо зараз сабраныя факты пра «цэлы шэраг парушэнняў рамачных умоваў» – гэтую праблему эксперты БДІПЧ мяркуюць узняць пры сустрэчы з кіраўніцтвам Цэнтрвыбаркама.

Аднак прадстаўнікі апазіцыі не хаваюць сваёй заклапочанасці прыездам у Мінск нават тэхнічнай місіі – з абмежаванымі паўнамоцтвамі і канкрэтнымі вызначанымі мэтамі. ■

## Урад папрасіў адтэрміноўкі

Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ

Візіт дэлегацыі Міжнароднай арганізацыі працы (МАП), якая мусіла наведаць Мінск 5-7 верасня, перанесены на кастрычнік. Па папярэдніх звестках, прадстаўнікі МАП прыедуць на Беларусь 18-20 кастрычніка, каб з першых рук атрымаць інфармацыю пра становішча прафсаюзаў.

Гісторыя гэтая даўняя. Тры галіновыя прафсаюзы ФПБ на пачатку лета паскардзіліся ў МАП на парушэнне прафсаюзных правоў з боку ўлады. У ліпені ў Мінску пабывалі прадстаўнікі Міжнароднай канфедэрацыі свабодных прафсаюзаў (МКСП) і прыйшлі да высновы, што ўрад Беларусі сапраўды ўмешваецца ва ўнутраныя справы прафсаюзаў і перашкаджае стварэнню структураў на месцах. Тады ж Генсек МКСП Біл Джорджан заявіў пра салідарнасць з беларускімі прафсаюзамі, а ўрадаваму боку прыгразіў магчымымі эканамічнымі санкцыямі.

Напярэдадні перанесенага візіту МАП урад папрасіў у міжнароднай арганізацыі пачакаць з прыездам дэлегацыі. ■

## «Вольная сцэна» — мінкульт: працяг будзе?

Кірэй МАНУЙЛА

Міністэрства культуры, як і абяцала, за час тэатральных вакацыяў знайшло-такі Рэспубліканскаму тэатру беларускай драматургіі («Вольная сцэна») замест Валерыя Мазынскага новага мастацкага кіраўніка. Ім стаў Валерый Анісенка: перамовы вяліся з некалькімі вядомымі ў краіне рэжысёрамі, але згоду даў толькі ён. Улічваючы тое, што, як мяркуюць тэатральныя колы, міністэрства культуры не працягнула кантракт з Валерыем Мазынскім з палітычных прычынаў, то згода В.Анісенкі замясціць В.Мазынскага ацэньваецца імі як штрэйкбрэхерства.

Дагэтуль В.Анісенка працаваў галоўным рэжысёрам літаратурна-драматычнага вяшчання на радыё. А яшчэ раней быў вядомы як вядучы ўрадавых канцэртаў. Што да тэатральнага жыцця, то ён быў і артыстам, і рэжысёрам. Напрыклад, іграў у Купалаўскім тэатры ў спектаклі «Паседжанне парткама, альбо Прэмія» у пачатку 70-ых, а ў 1994 і 1995 гадах на «Вольнай сцэне» паставіў вельмі неблагія «Рычард III» і «Макбет».

У наступную сераду, 20 верасня, з вакацыяў вяртаецца творчы калектыў, і ў гэты дзень мінкультаўскія чыноўнікі збіраюцца прадставіць артыстам іхняга новага мастацкага кіраўніка. Аднак наўрад ці Валерыю Анісенку варта разлічваць на цёплую і прыязную сустрэчу: раней калектыў рабіў заявы, што ніхто аніводнага дня не застанецца з кімсьці іншым на гэтай пасадзе, апрача В.Мазынскага. ■

# Блеф и тщета куртизанок




Александр ДУБРАВИН

*(Начало в №№ 56, 57)*

## Сгибаемые коммунисты

Совсем недавно, еще лет десять назад наша синеокая страна считалась образцовым заповедником фарисейского ученого коммунизма. Исследователи светлого будущего тут плодились в неимоверных количествах путем воздушно-капельной инфекции, всю жизнь улучшали свое учение и личное благополучие за государственный счет, портили бумагу в невероятных объемах, проводили образцово-показательные чтения, всесоюзные семинары, конференции и прочую байду. Поэтому коммунистов у нас в стране много. Как своих, так и чужих, — изгнанных, как паразиты, с исторической родины восставшими массами вопреки учению о классовой солидарности.

Классификация современных белорусских коммунистов заняла бы не одну страницу нашего повествования. Ибо какого нашего политика ни возьми, какого из них ни ковырни, – почти каждый покажет остаточную заплесневелость мозгов в виде представлений о мире, движущих силах современности, классовой борьбе и т.п. в духе марксистского догматизма. Более того, многие из них (я абсолютно уверен) до сих пор прячут в трусах свои партбилеты. Мало ли? Популярно говоря, мы жили и продолжаем жить при коммунистах, но шесть лет назад это общество вступило в новую стадию деградации, наиболее бесстыдную и сволочную, и вышло на свою финишную прямую.

В качестве классического примера истинного коммуниста современности, пламенного большевика и несгибаемого борца за народное счастье могу привести светлый образ Александра Лукашенко. Да, читатель, ты прав: он, считай, полностью похерил Советы! Да, он не проводит научно-практические ленинские месячники и зачеты! Но зато все остальное в неприкосновенности. И безвластие народных депутатов, и всесилие КГБ, МВД, спецслужб и прокуратуры, и основные средства производства в собственности номенклатуры, и промывание мозгов государственной пропагандой, и бесправие простого человека, и поиск внешних врагов, и полная безответственность власти, и ее ненависть к свободному предпринимательству, и бессмысленное распыление ресурсов, и насильственное насаждение колхозной системы, и т.д.

Итак, зарегистрированные коммунисты у нас делятся на карманных (КПБ, Аграрная партия) и общественных (БКП). Карманные – это группа товарищей при власти, около власти, за властью, под властью (и сочувствующие им), которые спинным мозгом поняли ее суть и естественно с ней сроднились. Общественные – это коммунисты-идеалисты, имевшие до недавнего времени некоторые романтические представления о жизни и здоровый инстинкт борьбы, который постепенно развеялся в трудностях и лишениях действительности. Их порой называют не коммунистической партией, а переходной моделью к социал-демократии.

Карманных коммунистов у нас возглавляет товарищ Чикин – человек и телевизор, постигший суть политики во всех ее неприглядных ипостасях, разуверившийся в прогрессе человечества, профессионал разговорного жанра. Он в нынешнюю палату не лезет, понимая всю суетность и тщету мирской жизни. Его жизненные сани летят сейчас сами собой во весь опор по целине куда-то вдаль, нетрезво виляя между кустами и деревьями. Его соратники по партии – полные сил ветераны, люди нелегкой судьбы, рукой водящие созидатели системы всеобщего счастья, сказители героических былин, о которых можно заметить, что хотя пороха и не изобретут, зато борозды не испортят. Вся борьба в этом коллективе проходит скрытно, под одеялом, вдали от любопытной общественности. Надо думать, места в палате для них бронируются строго по разнарядке и в порядке очередности.

Общественные коммунисты, напротив, устремились в палату всем коллективом, шумно, как слоны на водопой, и по количеству страждущих уступают лишь соколам Гайдукевича. Возглавляет их товарищ Калякин – нестарый человек с веселым выражением лица и усами. На прошлой неделе он поднял небольшую волну против Центризбиркома, возмущаясь творимыми безобразиями и препонами, но вяло както и без особого желания. Так что даже не все газеты об этом написали. Личный состав у общественных коммунистов пестренький; попадается и молодежь. Иногда они причисляют себя к оппозиции, иногда просто так сидят. Калякинцы – люди безвредные, тихие, маленько испуганные и большого урона своей стране не наносят, в отличие от чикинцев, которые, руководствуясь своим безумным однонаправленным интернационализмом, полны деятельного желания сдать нашу синеглазую Родину в жадные лапы Кремля. Впрочем, есть мнение, что желание это вполне осознанное и даже имеет ярко выраженный практический стимул. Но, как говорится, не пойман – не вор!

Ты, читатель, можешь мне возразить, что встречал в своей жизни прекрасных коммунистов, людей с большой буквы, до которых многим нынешним политикам – как до Китайской Стены на лыжах. И будешь прав. Ведь даже в наше подлое и смутное время встречаются коммунисты, которыми может гордиться вся страна. Например, Валерий Алексеевич Щукин – депутат законного Верховного Совета, правозащитник, боец, настоящий офицер, человек чести, совести и большой порядочности. Щукин, будучи в хорошем настроении, уверенно противостоит взводу омоновцев, но Щукин как политик совершает иногда непростительные ошибки. Все его ошибки – результат искреннего заблуждения, а не предмет холодного расчета и жалкого торга. Валерий Алексеевич нынче сгоряча поддался на лукашенковские выборы, и, конечно же, его поманили и не пропустили. А это было очевидным для всех, кроме, него задолго до выборов. Ибо Щукин – едва ли не единственный из кандидатов в палату, который на самом деле поставил бы ее всю на уши, во весь голос протестуя против несправедливостей и беззаконий нынешней власти. В результате получилось так, что Валерий Алексеевич в этой партии противостояния властей и оппозиции невольно сыграл на стороне Лукашенко. Его имя будут теперь использовать записные пропагандисты, склонять на все лады, козырять им перед европейскими представителями: «Видите, кто принимал участие в нашем мероприятии? Депутат Верховного Совета!».

Коммунистические идеалы чудесны, хотя и неосуществимы в этой жизни. Прекрасны люди, которые искренно живут этими идеалами! Но политику от имени наивных людей почти всегда делают люди хитрые, расчетливые и жадные, меткое определение которым дал Владимир Войнович – «заглотчики». О них мы и поговорим в следующем номере.

*Продолжение следует*

## НАРОДНАЕ МЕРКАВАННЕ

**— Ці чыталі вы канстытуцыю Беларусі з папраўкамі і дапаўненнямі 1996 года?**

**— Ці ведаеце вы, куды 15 кастрычніка (у якую з дзвюх частак нацыянальнага сходу) будуць праходзіць выбары, і як гэтая частка называецца?**



Людміла Рыгораўна, картограф

— Я ўвогуле не цікаўлюся такімі рэчамі, бо жыццё і без палітычных праблемаў складанае, даводзіцца пераадольваць столькі праблемаў, зарабляць на хлеб, што пра гэтую вашу канстытуцыю 96-га года не хочацца нават успамінаць.

— Не скажу, бо не ведаю. Але на самі выбары, відаць, пайду і падтрымаю свайго ранейшага дэпутата. Я супраць новаўвядзенняў.



А., студэнт

— Можа нават і чытаў нядаўна, не памятаю!

— Не ведаю. Мне цяжка адказваць на такія пытанні. А для чаго вы іх задаеце, у вас якая мэта?



Анатоль, рабочы

— Не. Не чытаў, і нават ніколі гэтым не цікавіўся, а навошта?

— Ды не ведаю я! Усё роўна мне.



Не назвалася, студэнтка

— Не, пакуль што яшчэ не, не чытала.

— Выбары будуць праходзіць 15 кастрычніка ў ніжэйшую палату, палату прадстаўнікоў. Але сама я наўрад ці буду ўдзельнічаць.



Залівака Ігар, інжынер

— Вам шчыра сказаць? Не, не чытаў.

— Ну-у, цяжкасці ў мяне выклікаюць такія пытанні. Актыўна да гэтых выбараў не рыхтуешся і ўсё гэта на тармазах так і праходзіць, незаўважна. Чаму? Ну няма ўпэўненасці, што гэта нешта зменіць, таму і адносіны да гэтых выбараў пэўныя.



Цыглянкова Вольга, санітарка

— Ну, даўно неяк чытала, зараз ужо не памятаю. Як даўно? Вельмі даўно.

— Не ведаю, як гэта называецца, абсалютна. Ды і не трэба мне гэта абсалютна.



Не назвалася, пенсіянерка

— Божа мой мілы! Канешне, не чытала! Што за пытанні?!

— Ды ну вас зусім! Якія выбары, адкуль вы іх узялі? Не ведаю нічога.



Валеры, часова беспрацоўны

— Смяецеся? Сур'ёзна? Не чытаў!

— Ха-ха! Ну, вы даеце, абсалютна не ведаю! Чаму? Ды хрэн яго ведае! Па барабану мне.

**Апытвалі**
**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК (фота)**

# Конкурс на лепшае асвятленне выбараў

Юрый ПАЦЁМКІН

Дзяржаўны камітэт па друку абвясціў конкурс на лепшае асвятленне ў перыядычных выданнях ходу падрыхтоўкі і правядзення выбараў дэпутатаў палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі.

Мэта конкурсу — актывізаваць інфармацыйнае забеспячэнне выбарчай кампаніі і садзейнічанне правядзенню сапраўды дэмакратычных і справядлівых парламенцкіх выбараў.

У конкурсе могуць браць удзел рэдакцыі газет і часопісаў. Яго вынікі будуць падводзіцца па дзвюх групах — рэспубліканскія перыядычныя выданні і мясцовыя перыядычныя выданні.

Рэдакцыі-лаўрэаты конкурсу па першай намінацыі атрымаюць тры прэміі па 150 тысяч рублёў кожная, па другой намінацыі будуць уручацца 6 прэміяў па 80 тысяч рублёў.

На конкурс прымаюцца апублікаваныя ў друку матэрыялы па асвятленні выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў. Тэрмін прадастаўлення матэрыялаў — да 15 лістапада 2000 года. ■

БелаПАН

## КАМЕНТАР НАШАЙ СВАБОДЫ

Рэдакцыя НАШАЙ СВАБОДЫ вырашыла прыняць удзел у гэтым конкурсе. Безумоўна – мы разлічваем на перамогу. І нават не з-за абяцаных грашовых прэміяў.

Мы публікуем шмат разнастайных матэрыялаў, прысвечаных выбарам у беларускі «парламент». Спецыяльна падкрэсліваем: мы гэта робім для «актывізацыі інфармацыйнага забеспячэння» кампаніі і фарміравання справядлівай грамадскай думкі.

У прызначаны тэрмін Дзяржкамдрук атрымае плён нашай працы для ацэнкі і выдачы ўзнагароды. Мы пераможам!

З гэтай нагоды нам хацелася б нагадаць спадарам кандыдатам пра цудоўную і абсалютна бясплатную магчымасць змясціць у НАШАЙ СВАБОДЗЕ дакументальна пацверджаны кампрамат на вашых канкурэнтаў па выбарчай гонцы. Публікацыя такіх матэрыялаў надасць непаўторны шарм вашай кампаніі, і вы абавязкова трапіце ў «палату». А ўсе астатнія грамадзяне атрымаюць асалоду ад актывізацыі іхняга інфармацыйнага забеспячэння і, канешне, належным чынам сфармуюць сваю справядлівую думку. ■

